Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

10 снежня 1997 года
СЕРАДА
№ 74
Наш індэкс 63834




МЯСЦОВЫ

## Эксперымент працягваецца

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У нашай газеце за 12 лістапада гэтага года ў заметцы «Ці ўдасца эксперымент?» паведамлялася аб тым, што ў райцэнтры пачаў курсіраваць гарадскі аўтобус. У парадку эксперыменту ён хадзіў па вызначаным у райцэнтры маршруце шэсць разоў у дзень на працягу паўтара тыдня.

Мінуў вызначаны тэрмін, і аўтамабілісты вымушаны канстатаваць, што эксперымент усіх расчараваў: няма пасажыраў. Адсюль і страты. І немалыя. Але закрываць гарадскі маршрут не адважыліся. Замест шасці выездаў пакінулі толькі два: раніцай у 7 гадзін і надвячоркам у 17.00.

Новы эксперымент працягваецца. Колькі ён праіснуе, невядома. А мо гараджане прызвычаяцца да такіх рэйсаў хаця б узімку?

## 25-й аукцион

по продаже объектов коммунальной собственности провел **Барановичский горисполком** при содействии Международной финансовой корпорации в рамках "Малая приватизация в Беларуси". На этот раз торги были активными. Производственно-коммерческая фирма "Аист" купила здание недействующей столовой в центре города за 500 млн, рублей, небольшой склад по ул. Брестской — за 130 млн. рублей и склад-ангар за 150 млн. рублей. Частный предприниматель выложил 240 миллионов за склад растительного масла.

Главным условием аукциона было требование максимально быстро задействовать приобретенные объекты. Город избавился от баластных объектов, казна пополнилась значительной суммой наличных денег.

## Інвалідаў абрадавалі

**БЯРОЗА.** Своеасаблівае адзначыў Міжнародны дзень інвалідаў раённы камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва. На працягу тыдня, з 1 па 7 снежня, ва ўсіх яго майстэрнях ад інвалідаў розных катэгорый прымаліся заказы з 20-працэнтнай скідкай.

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

## Лабарантка НАТАЛЛЯ ФЯДКОВІЧ



*ІВАЦЭВІЧЫ. Адкрыты, добры позірк шэрых вачэй, прыемная ўсмешка, ветлівасць і шчырасць у адносінах да сваіх наведвальнікаў — такой ведаюць у санаторыі "Палессе" клінічную лабарантку Наталлю Фядковіч. Родам яна з вёскі Горталь. Сёлета закончыла Мінскае медыцынскае вучылішча. І тут, у санаторыі, пачаўся яе самастойны працоўны шлях. Як сказалі нам Наташыны калегі, пачатак яе жыццёвай дарогі не выклікае сумнення. Работу яна выбрала па душы і з душой ёю займаецца.*

*НА ЗДЫМКУ: Наталля Фядковіч.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

## Школа займела музей

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Хоць фінансавыя магчымасці цяпер абмежаваныя, аднак у Квасевіцкай сярэдняй школе змаглі знайсці сродкі, каб абсталяваць краязнаўчы музей. Яго экспазіцыя складаецца з двух аддзелаў: этнаграфічнага і ваенна-патрыятычнага.

Экспанаты першага расказваюць пра сялянскі побыт 20—50 гадоў гэтага стагоддзя. Тут сабраны рэчы, якія выкарыстоўваліся раней: прылады працы, вопратка, ручнікі, ганчарныя вырабы.

Ваенна-патрыятычны аддзел — гэта галерэя фотаздымкаў з кароткімі біяграфічнымі дадзенымі тутэйшых жыхароў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, былых афганцаў і выпускнікоў школы, што выбралі для сябе ваенную прафесію. Ёсць рэліквіі: гільзы ад снарадаў, кавалак кулямётнай стужкі, снарады, што засталіся з часоў другой сусветнай вайны.

Адкрыццё музея — акт не фармальны. Гэта знак увагі да свайго мінулага, сваёй гісторыі. Добрую ідэю дапамаглі ўвасобіць у жыццё дырэктар Івацэвіцкага краязнаўчага музея І. Р. Лях, спецыяліст раённага аддзела адукацыі М. І. Пішчава, мастак М. І. Новікаў, настаўнік Квасевіцкай сярэдняй школы В. П. Януш.

Першымі наведвальнікамі музея сталі ўдзельнікі абласнога двухдзённага семінара па пытаннях патрыятычнага выхавання моладзі.

## Гайда ў банкі па валюту

Тое, аб чым так шмат пісалі і гаварылі, здзейснілася. Наша дзяржава нарэшце зразумела, што хопіць рабіць выгляд, быццам бы ў нас валюта найтаннейшая і яе хапае. Хто з нас успомніць, калі ў апошні раз набываў яе ў банку?

Гэтымі днямі ўсе сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што курс куплі і продажу валюты для фізічных асобаў адпушчан, банкі будуць па свайму меркаванню яго вызначаць.

Даўно бы гэтак. Гайда ў банкі па долары. Няхай цяпер валютчыкі падумаюць, ці выгадна ім працаваць...

## Кураціны ўдосталь

**БАРАНАВІЧЫ.** Навіна. На птушкафабрыцы ўзвялі ў эксплуатацыю яшчэ некалькі цэхаў па выпуску кілбас, катлет, зярністай ікры. Справы пайшлі так добра, што не стала хапаць мяса на гэтую прадукцыю. Выйсце знойдзена. Цяпер будуюцца два птушніка з нямецкім абсталяваннем. Але і гэта не ўсё. Па заказу прадпрыемства праектуюцца яшчэ некалькі цэхаў па вырошчванні бройлераў.

Калі мяса шмат, дык яно па законах рынка таннее. Да гэтага і імкнецца калектыў птушкафабрыкі, які мае сваю сетку крамаў у Брэсцкай вобласці і Мінску. Фабрыка імкліва набірае тэмпы расшырэння вытворчасці. Пакупнікі задаволены.

Гараджане, дарэчы, не толькі спяшаюцца ў ганддлёвыя кропкі птушкафабрыкі. Яны не лянуюцца пад'ехаць на прадпрыемства ў краму, што размясцілася ля праходной. Кураціна тут танная, свежая і без абмежаванняў.

## Сябрына ў гонар мясцовай паэткі

**БАРАНАВІЧЫ.** Літаратурна-музычная гасцёўня "Крыніца", грамадскасць горада адзначылі 50-годдзе паэткі Людмілы Шувалавай. Творчая сябрына праводзілася ў Доме мастацтваў і выклікала ў яе ўдзельнікаў вялікае мора пачуццяў і ўражанняў.

## Спробы юных мастакоў

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У школах і дзіцячых садках Стайкаўскага сельсавета праводзіўся конкурс малюнкаў, прысвечаны Дню маці. Лепшыя работы былі сабраны на агульнасельсавецкую выставу-конкурс пад назвай «Мая мама». З ёй можна было пазнаёміцца ў зале сельвыканкама.

Усе дзіцячыя работы (а іх было больш за 40) пра самага дарагога на свеце чалавека — маці кранаюць сваёй шчырасцю, замілаванасцю, любоўю. Іх аўтары з дапамогай фарбы або проста алоўка імкнуліся перадаць свае адносіны, свае пачуцці да роднай матулі. Вось яе партрэт, вось яна на рабоце ці дома, вось разам з дзецьмі на прагулцы...

У канцы лістапада выканкам сельсавета падвёў вынікі выставы-конкурса.

Сярод школьнікаў першае месца і прэмія ў 300 тысяч рублёў прысуджана вучаніцы 7 класа Стайкаўскай сярэдняй школы Веранікі Салата за работу «Мая мама».

Другое месца заняла Света Хомчанка (Гошчаўская СШ). Яе малюнак «Мацярынская трывога» адзначаны прэміяй у 200 тысяч рублёў.

На трэцім месцы — сямікласніца Зялёнаборскай СШ Алеся Галанава. Прэмію ў 100 тысяч рублёў яна атрымала за малюнак «Партрэт маці».

Сярод дашкольнікаў вызначаны таксама тры пераможцы. Першае месца і прэмія ў 200 тысяч рублёў прысуджаны пяцігадовай Ані Гармытнай (Зялёнаборскі дзетсад) за малюнак «Мамаша для Мишки стирает штанишки», другое месца і прэмія 150 тысяч рублёў — Іры Грышчэні (ёй пяць гадоў, Зялёнаборскі дзетсад) за малюнак «Вялікая сямейка».

Шасцігадовы Максім Басалай (Стайкаўскі дзетсад) са сваім малюнкам «Мая мама» заняў у гэтым конкурсе трэцяе месца. Ён заахвочаны прэміяй у сто тысяч рублёў.

## Каму — вінтоўка, каму — лыжка

**БАРАНАВІЧЫ.** З мінулага месяца працуе медыцынская камісія пры гаррайваенкамаце па адбору дапрызыўнікаў у розныя роды войск. Вынікі не вельмі ашаламляльныя. Маладыя людзі пакутуюць на сардэчныя хваробы, язву страўніка, нярвовыя расстройствы і скураныя захворванні. Іменна па гэтай прычыне пакуль не ўдалося задаволіць заяўкі пагранічнікаў, паветрана-дэсантных войск, міліцыі. Многія рабяты годныя для службы толькі ў стаковых ды на падсобных работах. Такое сумнае становішча са здароўем юнакоў урачы звязваюць са шкодным уплывам экалагічных працэсаў у навакольным асяроддзі, ужываннем спіртнога і масавым курэннем.

● АНЕКДОТ НЕДЕЛИ

Вызывает директор предприятия главного бухгалтера и говорит:

— Петровна, вот тут распоряжение поступило экземпляров 300—500 районной газеты выписать нашим работникам за счет предприятия...

— Какое такое распоряжение? — удивляется Петровна. — Во-первых, прошли те времена, когда людей силком заставляли газеты выписывать. Во-вторых, кому нужна эта газета со своим враньем и тягомотиной...

Директор терпеливо слушает и растолковывает:

— Петровна, во-первых, для кого времена прошли, а для кого — нет. Во-вторых, нужна не эта газета, а тираж для этой газеты...

Но главный бухгалтер артачится:

— Да где я статью найду, чтобы эти пустые расходы списать!

Директор не теряет терпения:

— Петровна, поймите: если вы статьи не найдете, то и вам, и мне найдут ее в другом месте!



ПОДПИСКА—98

*Ведется подписка на "Газету для вас" на первый квартал 1998 года.*

*Вас ждут в любом отделении связи Березовского, Ивацевичского и Барановичского районов.*

Цена газеты:
на месяц — **8** тысяч,
на два — **16** тысяч,
на квартал — **24** тысячи рублей.

**ИНДЕКС издания — 63834.**

КОЛА ДУМАК

# Фермерства – цяжкі груз...

*Як паведамілі нам у аддзеле статыстыкі райвыканкама, у раёне 14 фермерскіх гаспадарак. Ім выдзелена 105 гектараў зямлі. Як працуюць гэтыя гаспадаркі, што новага ў іх дзейнасці, якія ёсць праблемы, што іх турбуе і трывожыць? Гэтыя і іншыя пытанні цікавілі нашага карэспандэнта, які пабываў у фермерскай гаспадарцы Фёдаравых, што знаходзіцца ў Вульцы-Целяханскай і Выганашчах. У гутарцы ўдзельнічалі бацька і сын Мялікі – Фёдар Пятровіч і Фёдар Фёдаравіч.*



**— Фёдар Пятровіч, скажыце, калі ласка, як усё пачыналася, як Вы сталі фермерам?**

— Да 1990 года я працаваў экскаватаршчыкам. Апошняе месца работы «Сельгасхімія». Дык вось тым часам быў прыняты закон пра фермерства, і я вырашыў стаць на схіле гадоў фермерам. Сам не падазраваў, што стаць ім не вельмі проста. У студзені 1990 года пачаў клапатаць аб выдзяленні зямельнага ўчастка. Я прасіў дзесяць гектараў. У аддзеле райвыканкама па землеўпарадкаванню шукалі мне ўчастак амаль да канца красавіка. Знайшлі яго за Вулька-Целяханскай пад лесам. Па карце лічылася там шэсць гектараў, а калі сталі мерацьць, аказалася толькі 2,65 гектара. Астатняе зарасло лесам, якому ўжо каля паўсотні гадоў. Больш нідзе не давалі, і я згадзіўся на гэтую кроплю. Першы год яшчэ паспеў ячмень пасеяць і тое-сёе пасадзіць.

**— І на гэтым скончыліся Вашы клопаты пра набыццё зямлі?**

— А што клапатаць, калі кажуць, што няма больш зямлі. А я думаю, што зямлі хапае. Вось даваць чамусьці не хочуць. Адразу за маёй сядзібай пачынаецца поле – недзе 10-12 гектараў. Хто быў у нашай вёсцы, той ведае, што вакол гэтага поля раскіданы хаты нашых вяскоўцаў. Менавіта гэты пляц мне падыходзіў – і блізка, і зямля, як кажуць, можна мірыцца. Гэты ўчастак лічыцца сельсавецкім, а кожны год засявае яго калгас імя Куйбышава. Значыць, калгасу можна, а фермеру – не. Мог бы і калгас выдзеліць мне кавалак зямлі, хаця я калгаснікам і не лічуся. Але ж будучы экскаватаршчыкам, канавы капаў не дзе-небудзь, у другім раёне, а ў тых жа нашых калгасах. Што ж, не далі дык не далі. Яны сваю маюць рацыю.

**— Значыць, Вы, Фёдар Пятровіч, усё ж атрымалі невялікі кавалак зямлі. Як на ім працуецца?**

— Сапраўды, атрымаў. Да яго яшчэ дадалі трыццаць сотак разам з маёй сядзібай і стала тры гектары. Я яшчэ не казаў, што да майго ўчастка, каб даехаць, трэба зрабіць круг ля пяці кіламетраў. Да таго поля раней і ездзілі старой дарогай. А вось напрасткі – паўтара кіламетра. Трэба рабіць дарогу. Так я вырашыў. У райсельгасупраўленні паабяцалі дапамагчы. Тады яшчэ начальнікам быў П. Лемяшэўскі. Наняў тэхніку, прафіліравалі дарогу. На адрэзку ў 600 метраў зрабілі падсыпку. Зараз там можа і легкавушка праехаць. А што тычыцца дапамогі, то і да сённяшняга дня не дачакаўся, хаця звяртаўся не раз.

Апрацоўваць гэты ўчастак зямлі не складае вялікіх цяжкасцей. Ёсць у мяне трактар Т-25, сякі-такі прычапны інвентар да яго. Сеяў пару разоў цукровыя буракі. Клапатаў многа, але выгада ёсць. Толькі самае галоўнае пачалося ў 1994 годзе.

**— І што ж здарылася? Можа, Фёдар Фёдаравіч пра гэта раскажа?**

— Ахвотна. Ну, спярша прадгісторыя. Я са старшым братам працаваў у Мінскай фірме «Аграбелэкс». Гэтая фірма па дамоўленасці з калгасам «Радзіма» пасадзіла ля Выганашч 16 гектараў саду (алыча дзікая, яблыкі, парэчкі, маліна). Калі фірма стала распадацца, мне з братам выпала доля маёмасці – малады сад.

Як мы з бацькам апынуліся ў адной фермерскай гаспадарцы, таксама, відаць, будзе цікава.

У 1994 годзе бацька моцна захварэў. Як ён сам казаў, думаў канцы аддасць. Таму спешна ўсё пераафармілі на мяне. Паколькі бацька Фёдар і сын Фёдар, дык нас запісалі "Фермерская гаспадарка Фёдаравых". Так і на пячатцы значыцца. Цяпер у нас 19 гектараў зямлі. Тры гектары ворыва і 16 гектараў саду.

**— Як я разумею, работы ў Вас, Фёдар Фёдаравіч, прыбавілася?**

— Работы хоць адбаўляй. Асабліва ў садзе. Сад прынёс нам шмат клопату. Па-першае, не прыжылася чарэшня. Па-другое, унадзіліся туды зайцы. Папярэдзілі, што страляць нельга, асабліва ноччу. Але ж яны па начах грызуць. Усе ствалы абвязалі елкай, але і гэта не дапамагло. Мінулай зімой снегу намяло, то зайцы вышэй абвязак грызлі. Усе галіны аблапошылі. Не паверыце, з 2000 яблынь засталося непапсаваных каля 150. Праўда з тых паўмятровых яблыневых пасынкаў пайшлі пабегі. Так што частка дрэўцаў узновіцца.

Акрамя зайцаў, робяць набегі ў сад і мясцовыя жыхары. Крадуць і яблыкі, і ягадныя кусты. Паставіць агароджу вакол сада пакуль што не ў сілах. Вельмі многа трэба грошай, каб купіць сетку або іншы матэрыял для агароджы.

**— Калі зайшла гаворка пра фінансы, то скажыце, калі ласка, Фёдар Фёдаравіч, якое становішча ў Вас?**

— Сёлета быў неўраджай – і на полі, і ў садзе. Выручыла тое, што першыя тры гады падатак за зямлю не трэба плаціць. Але крэдыт неабходна выплочваць. Бралі сто мільёнаў рублёў і купілі МТЗ-80. А да яго прычапнога інвентару ў нас амаль няма. У калгасе ж на фермера касавурацца, не заўсёды дадуць тыя ж плугі або камбайн скасіць зерневыя. Вядома, за плату. Так што фермеру цяжка з усіх бакоў. Фермерства – гэта не масла, як некаторыя думаюць. Усё неабходна купляць: салярку, масла дызельнае, насенне сартавое, ядахімікаты, угнаенні. Як станеш лічыць, кругам галава ідзе: шмат што трэба, а магчымасці невялікія. А дапамогі няма ні адкуль. Як хочаш, так і выжывай.

Мы ўсё ж духам не падаем. Праца на зямлі для нас справа прывычная. Мяркуем, што наступны год будзе значна лепшы за папярэдні, атрымаем ураджай ў полі і ў садзе. Тады і грошы паявяцца.

**— І на заканчэнне хачу пачуць ад Вас, Фёдар Пятровіч, пра планы на далейшае.**

— Пра некаторыя нашы будучыя клопаты сказаў ужо сын Фёдар. Яшчэ раней, калі быў адзін, меў намер стварыць невялікую ферму галоў на 20. Але ж бліжэй да сваёй хаты зямлі не выдзелілі, таму і няма дзе будавацца. Усё ж мара засталася. Ці спраўдзіцца яна, пакажа час. Патрэбен нам прычапны інвентар да МТЗ-80. Добра было б набыць яго, але ў нас няма пакуль на гэта сродкаў. Крэдыт браць не адважваемся, таму што за папярэдні яшчэ не разлічыліся. Толькі на наяўныя грошы будзем спадзявацца, каб набыць нешта для гаспадаркі.

Вось такія нашы сённяшнія планы. Вось так мы жывём. На далёкую перспектыву загадваць не прыходзіцца. Вельмі ж хутка ўсё ў жыцці мяняецца. Можа і мы дажывём да лепшых дзён.

X X X

Развіталіся мы як добрыя знаёмыя і дамовіліся, што ў будучым годзе абавязкова сустрэнемся. І на полі. І ў садзе. Каб сваімі вачамі ўбачыць ужо квітнеючы сад і зялёнае поле, каб упэўніцца, што зямля па-сапраўднаму аддзячыць тым, хто на ёй працуе па-гаспадарску, з душой і адданасцю.

*Гутарыў*
*С. КАЖАДУБ.*

***НА ЗДЫМКУ: Фёдар Фёдаравіч і Фёдар Пятровіч Мялікі. Фота А. ГАНЧУКА.***

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Ці пойдуць куры нам насустрач?

*— «Газета для вас?» Можа вы растлумачылі б, чаму ў магазінах Івацэвічаў нельга купіць яек? Спрабуеш высветліць у прадаўцоў – яны разводзяць рукамі, маўляў, нам не прывозяць гэты тавар. Ідуць вялікія рэлігійныя святы, Новы год, і гэты прадукт так патрэбен і да пірагоў і да салатаў. Яго ж, нічым не заменіш...*

*Н. Савацеева,*
*жыхарка*
*г.Івацэвічы.*

Гэтае пытанне мы задалі намесніку старшыні Івацэвіцкага райпо па гандлю **В. С. Люсцібер.**

**— Чаму няма яйца ў продажы?** Таму што – не сезон, зімой куры, як ведаеце, мала нясуцца, — адказала Валянціна Сцяпанаўна. – І нашы заяўкі на гэты тавар Баранавіцкай і Аранчыцкай птушкафабрыкамі амаль не задавальняюцца. Вось нядаўна паехалі ў Аранчыцы, прастаялі дзень, а атрымалі 20-40 скрынак яек. Дык іх жа трэба па прадпрыемствах грамадскага харчавання размеркаваць, дзіцячым садкам і іншым установам такога тыпу...

Мы сказалі Валянціне Сцяпанаўне, што па службовых справах два разы на тыдзень бываем у Баранавічах, і там яйцо ляжыць у магазінах паўсямясцова і дэфіцытам не з'яўляецца. Атрымліваецца так: у Баранавічах – густа, у Івацэвічах пуста...

— Не ведаю, як у Баранавічах, а ў нас – становішча такое, як я гавару. І ў райвыканкаме, і ў аблвыканкаме гэта ведаюць...

Бачыце, як маленькае яйка можа стаць вялікай праблемай. А мо штучнай праблемай? Мо лепш нашым работнікам райпо варушыцца трэба? Тады і куры ім насустрач пойдуць, нягледзячы на зіму больш яек знясуць...

ПРИЯТНЫЕ ХЛОПОТЫ

# ПРИСПЕШАЯ ПРАЗАНИК

Ни в одном другом месяце так не чувствуется приближение с детства всеми любимых праздников, как в декабре. Магазины уже украшаются елочками, мишурой и разноцветными гирляндами. А улыбающийся из-за стеклянной витрины Дед Мороз приглашает за покупками.

Первым в череде любимых праздников приходит Рождество. Еще недавно в нашем атеистическом обществе об этом празднике мы знали лишь по рассказам бабушек да из иностранных фильмов. А отмечали его вообще считанные единицы. А между тем, Рождество Христово — один из главных христианских праздников, установленный в честь рождения Иисуса Христа. Отмечается он 25 декабря по григорианскому стилю. В нашей республике Рождество отмечается дважды: 25 декабря — католическое Рождество, 7 января — православное. В странах Западной Европы и Америки нет такого разделения. И католическое, и православное Рождество отмечают 25 декабря.

На Рождество принято дарить подарки. И вовсе не обязательно, чтобы это были дорогостоящие вещи. Наоборот, предпочтение отдается небольшим сувенирам, сделанным своими руками. Это могут быть, например, украшения на елку. Если у вас есть лоскутки яркой (желательно, в красных тонах) ткани, сшейте семейство веселых медвежат, набитых ватой. Маленьких медвежат вешают ближе к верхушке елки, а медвежатами побольше украшают нижние, более крепкие ветви. Из длинных и узких обрезков ткани завяжите бантики. Красиво обрежьте их концы. Такими бантиками можно украсить и елку, и сверток с подарком для лучшей подруги, и деревянное сердечко. Попросите кого-нибудь из мужчин, живущих в вашем доме, выпилить сердечко из кусочка фанеры. Размеры пусть подскажет вам ваша фантазия. Наклейте на него множество бантиков и преподнесите в подарок тому, по ком долго и безнадежно вздыхаете, а он совсем не замечает этого. После такого подарка расстает даже айсберг.



Если же вы захотите на Рождество порадовать своего ребенка, сшейте или свяжите ему чулочек. Раньше такие чулки дети вешали на камин, чтобы Дед Мороз положил в рождественскую ночь в него подарок. За неимением камина в наших городских квартирах чулочек повесьте в прихожей, и пусть дедушки и бабушки, а также ваши приходящие в гости друзья кладут в него конфеты, орехи, яблоки, шоколадные яйца... Ваше чадо будет в восторге, находя в чулке всю рождественскую неделю что-то новенькое. Детей так легко обрадовать, надо просто подарить им рождественскую сказку!

Ну и, конечно, ни одно Рождество не обходится без праздничного стола. Несколько оригинальных блюд помогут вам удивить своих домашних и друзей.

Попробуйте приготовить грудку индейки с мармеладом. Возьмите грудку индейки, натрите ее солью и перцем и обжарьте в горячем растительном масле с каждой стороны примерно по три минуты. Затем поставьте в разогретую до 200 градусов духовку и тушите еще около полутора часов. За это время приготовьте «мармелад»: размочите желатин и растворите его в подогретом красном портвейне. Все это перелейте в мелкую миску и дайте застыть. Готовую грудку нарежьте ломтиками, выложите на блюдо и украсьте. А украшением будут служить фигурки, которые вы вырежете из застывшего желе с помощью жестяных формочек для печенья. Только индейка должна остыть, иначе украшения «поплывут».

Вместо обычного хлеба на стол можно подать вот что — взять 2 больших батона, надрезать наискосок крупными ломтями, не отделяя один ломоть от другого. Мягкое сливочное масло хорошо размять, добавить мелко нарубленный чеснок (по вкусу), порубленную зелень (петрушку, укроп, базилик) и посолить. С помощью ножа заполнить масляной массой надрезы на батоне. Делать это надо очень аккуратно, чтобы хлеб не разломался. Положите батон на противень и поставьте в горячую духовку. Запекайте около 5 минут. Готовый батон украсьте листочками базилика.

*Галина УЛАСИК.*

ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ТУПИК?

# БЮДЖЕТНЫЙ «КАФТАН» ОКАЗАЛСЯ КУЦЫМ

«Примеркой кафтана» назвал Председатель Палаты представителей Национального собрания Анатолий Малофеев принятие депутатским корпусом в первом чтении проекта бюджета Республики Беларусь на 1998 год. То, что эта обновка окажется куцей и вряд ли сумеет всех обогреть, понятно и ее «модельерам» — Совету Министров и законодателям. Но, как сказал Анатолий Малофеев: «Делим то, что имеем».

Так что же мы будем иметь в будущем году?

Как отметил министр финансов Николай Корбут, этот документ создавался с учетом тенденций исполнения бюджета в текущем году и основных прогнозных макроэкономических показателей социально-экономического развития страны в будущем году. При формировании доходной части правительство сочло возможным сократить в 1998 году ставку чрезвычайного чернобыльского налога с 8 до 4 процентов, полностью исключить из облагаемой налогом прибыль, направляемую на финансирование капитальных вложений производственного назначения и жилищного строительства, отменить ставки акцизов на натуральный мех и изделия из него, на шины для легковых автомобилей, одежду из натуральной кожи и т. д. В отношении производителей-экспортеров предлагается продлить действующий порядок льготного налогообложения прибыли, полученной от прироста реализации продукции собственного производства за пределы республики.

С учетом этих факторов доходы бюджетной системы Беларуси на будущий год спрогнозированы в сумме 142,3 триллиона рублей, а доходы республиканского бюджета составят 86,05 трлн. рублей.

Кстати с будущего года в бюджет республики впервые включены и доходы республиканских целевых внебюджетных фондов: фонда поддержки производителей сельскохозяйственной продукции и продовольствия; дорожного фонда и фонда охраны природы; государственного фонда содействия занятости и фонда «Энергосбережение». Предполагается, что указанные средства будут аккумулироваться на счетах Главного государственного казначейства, что позволит сконцентрировать в единой государственной казне большинство источников ее формирования. Однако эту позицию правительства разделяют далеко не все депутаты. В частности, Николай Куцко выразил опасение, что средства внебюджетного фонда поддержки производителей сельхозпродукции могут «раствориться» в недрах Минфина и не дойдут до сельчан.

С учетом внебюджетных фондов объем консолидированного бюджета определен в сумме 165,7 трлн. рублей. Естественно, что он сможет удовлетворить далеко не все потребности нашего государства и общества. Поэтому при формировании его расходной части правительством учитывались, прежде всего, первостепенные нужды: обеспечение потребностей бюджетной сферы, финансирование расчетов за потребляемую энергию, специальных программ и мероприятий, утвержденных президентом и правительством, выделение необходимых ассигнований на выполнение совместных программ в рамках Союза Беларуси и России. В бюджетном году предполагается сохранить социальную направленность бюджета: обеспечить финансовую поддержку предприятий и организаций сельского хозяйства и экспортеров, ввести элементы бюджета развития. Согласно проекту на финансирование социально-культурных учреждений и направлений социальной политики предусмотрено выделить 52 процента доходов консолидированного бюджета. Как и в предыдущем году, значительные средства — 6,4 трлн. рублей планируется выделить аграрному сектору. Вместе с тем, как считают депутаты, подобные шаги вряд ли помогут существенно решить проблемы этого сектора экономики. По словам Николая Куцко, к концу этого года недостаток финансирования сельского хозяйства возрастет до 40 триллионов рублей. Поэтому без изменения ценовой политики решить проблемы села невозможно, считает он.

Проектом предусматривается увеличить расходы на образование, науку. Но заложенные в документе показатели не всегда отражают реальную ситуацию. К примеру, в будущем году на науку предполагается выделить 2,5 процента расходной части бюджета, что как будто выше уровня нынешнего года. Между тем, как отметил председатель парламентской комиссии Владимир Плетюхов, в эту графу вошли и расходы на военную науку, которые раньше относились к совершенно иной статье. Таким образом, по его словам, фактические расходы на науку в будущем году уменьшатся и окажутся в 1,5 раза ниже, чем, например, на Украине. Депутат также считает, что предложенный проект не будет способствовать и развитию национальной культуры, поскольку эта важнейшая для жизни общества сфера также будет финансироваться по остаточному принципу. Ниже минимального потребительского бюджета останется в будущем году, по его словам, и зарплата работников образования.

Как отметил председатель комиссии по бюджету и финансам Александр Зинченко, предусмотренные темпы ассигнований не смогут обеспечить сохранение в будущем году удельного веса расходов на культуру, искусство, науку и здравоохранение в общем объеме расходов бюджета. Александр Зинченко также считает, что прогнозируемый дефицит бюджета — 16,7 триллиона рублей за последние три года является самым высоким, что может создать серьезное инфляционное давление на экономику республики. «Это ставит под вопрос возможность удержания среднемесячной инфляции, планируемой на 1998 год, на уровне двух процентов, а следовательно, и реальность проектировки бюджета. Предполагается, что за счет выпуска государственных казначейских обязательств будет покрыто 12 триллионов рублей дефицита. По нашему мнению, эта цифра не соответствует емкости рынка ценных бумаг. В текущем году чистый доход бюджета от размещения ценных бумаг составил 3,6 триллиона рублей при общей эмиссии 11,8 триллиона рублей», подчеркнул Александр Зинченко.

При обсуждении проекта бюджета в первом чтении депутаты говорили и о необходимости поиска провительством более эффективных статей дохода. Так, Мария Винокурова считает, что существенным источником пополнения государственной казны могло бы стать выгодное географическое положение Беларуси, особенно транзит энергоресурсов.

Прозвучало и множество других замечаний и предложений. Как отметил Анатолий Малофеев, они будут рассмотрены при подготовке законопроекта ко второму чтению, которое планируется провести 9—10 декабря.

*Лариса ЛАЗАРЬ, журналист. (БелаПАН).*

# Для дома, для семьи, для души...

ИЗ СЕМЕЙНОГО АЛЬБОМА



*К нам приехал цирк.*

ХОТИТЕ — ВЕРЬТЕ...

## О чем говорит подпись

Без вычурностей, с точкой — благоразумие; с подчеркиванием — самомнение и самодовольство; завитушки и витиеватые росчерки — эксцентричность, сумасбродство, кокетство, фатовство, а их отсутствие — простота; паутинообразный росчерк — ловкость, проворство в делах, скрытность; зигзагообразный росчерк — энергичность, подвижность; в виде штопора — хитрость, тонкий ум; росчерк, окружающий подпись — себялюбие и скрытность; в виде лассо — агрессивность; несимметричность — вульгарность.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Кое-что о чесноке

Чеснок быстро высыхает в квартире. Сохранить его долго нелегко, но можно. Очищенный чеснок нужно пропустить через мясорубку, переложить в стеклянную банку (не солить), закрыть полиэтиленовой крышкой и поставить в холодильник. В таком виде он долго сохраняет все свои свойства: его можно добавлять в разные блюда и соленья. Можно сохранить чеснок и таким образом: опустите его на несколько секунд в расплавленный парафин, дайте обсохнуть, затем сложите в капроновый чулок и подвесьте в сухом месте.

Если в чистую и сухую бутылку из-под молока положить очищенные от шелухи зубчики чеснока и залить растительным маслом, их можно хранить несколько лет.

Своим резким запахом чеснок хорошо отпугивает рыжих муравьев. Нужно натереть очищенной головкой все их «тропы», и больше вы их в доме не увидите.

Чтобы в муке и крупах не завелся мучной жучок, разложите на полках, а можно и в банках с припасами дольки неочищенного чеснока.

ДЛЯ ВАС, МАМЫ

## Ребенок должен спать на спине

Научно обоснованную рекомендацию получили наконец те матери, которые не знают, как укладывать спать младенца — на спине, на боку или животе. Издаваемый в Англии журнал «Педиатрия» опубликовал результаты исследований специалистов, согласно которым малыши, которые всегда спят на спине, здоровее, чем остальные.

Профессор Бристольского университета педиатрии доктор Петер Флеминг обследовал 18 тысяч детей в возрасте до 8 месяцев. Как 4-недельные, так и полугодовалые младенцы, которые спят попкой кверху, кашляют значительно чаще, чем те, кто спит кверху пупком. То же самое справедливо и в отношении небольшой температуры или сыпи. Выяснилось также и то, что, лежа на спине, младенцы спят дольше и лучше высыпаются.

ОТКУДА ЧТО

## Как придумали шариковую ручку

Изобрел ее венгерский журналист Ласло-Йожеф Биро. Бывая в типографиях, он задумался: а почему нельзя заполнить резервуар «вечного пера» какими-то специальными чернилами, сохнущими так же быстро, как типографская краска? Журналист быстро понял, что чернила эти должны быть как можно более густыми. Но тогда они забьют систему капилляров обычной авторучки! Значит, для них придется придумать какой-то другой пишущий узел.

Биро заменил перо свободно вращающимся шариком. Первый опытный образец шариковой ручки был создан в 1938 году. В Париже перед самым началом войны автор получил патент на свое изобретение. А первая продукция увидела свет в Аргентине в 1943 году. Частыми покупателями стали летчики, убедившиеся, что, в отличие от обычной авторучки, шариковая не течет при подъеме на высоту, где меньше атмосферное давление. В 1944 году Биро защитил свое изобретение патентом США и продал лицензии двум крупным американским фирмам. 50 полицейских пришлось вызывать в крупный нью-йоркский универмаг, где возбужденная толпа в считанные часы раскупила более десяти тысяч таких авторучек.

ПОГОВОРИМ ОБ ЭТИКЕТЕ

## Внезапный гость

Если он застает дома обоих супругов, то хозяин занимается пришедшим, а хозяйка может уйти для того, чтобы привести себя в порядок. Если дома окажется только хозяйка, она может на время оставить гостя одного, но отсутствовать не более трех минут. Не обязательно переодеваться с ног до головы. Чем больше естественности, тем лучше. Так же спокойно следует отнестись к беспорядку в комнате. Не оправдывайться, не убирать лихорадочно. Выключить пылесос, если он был в действии, снять со стула, на котором сидит гость, рубашку мужа. И все. Разложенное шитье или даже стирка — дело житейское и может случиться в каждом доме.

Как долго следует ждать запоздавших гостей, когда они единственные приглашенные? До их прихода. Гости умеют опаздывать даже на два часа, что вовсе не дает права хозяевам уйти из дому. Это допустимо в случае, если уговор был не наверняка, а выразился в слове "заглянем". Тогда через полтора часа можно считать себя свободными от обязанности ждать.

КРЫМІНАЛ

# Чужыя грошыкі рукі пякуць...

***У той лістападаўскі дзень Ганна Міхайлаўна Л. была чамусьці неспакойнай. І сама не ведала чаму. Нешта калаціла душу і пастаянна цягнула да хаты. Яна жыла ў Дабрамыслі. Ужо на пенсіі, але яшчэ працавала ў дзіцячым санаторыі ў Сасновым Бары.***

Ступіўшы на свой падворак, адразу кінулася ў хату. Перад дзвярыма яе, нібы токам ударыла. Замок збіты, клямка вісіць.

«—Вось чаму мяне грыз неспакой, — адразу сцяміла жанчына. – Не інакш як злодзей пабываў у хаце...»

Ужо за парогам прыпынілася і пачала аглядаць, што забрана. Злодзей з пустымі рукамі чужую хату не пакідае. Калі не знойдзена нейкіх каштоўнасцей, абавязкова што-небудзь прыхопіць, хоць і непатрэбнае.

Першае, што заўважыла Ганна Міхайлаўна, гэта тое, што са шкапіка зніклі дзве пляшкі гарэлкі... Але ж і шафа ў другім пакоі відаць добра не зачынена. Яна – туды. Там, у сумачцы, грошы яе схаваны. На чорны дзень складвала. І пенсію, і заробак, і з гаспадаркі трохі прыбытку было.

Калі пачала шарыць у шафе, то сумачку адразу знайшла. Але ж яна аказалася пустой. Села жанчына на лаву і заплакала. Не так ад прапажы, як ад крыўды. «Увесь век працавала, спіны не разгінала, кожную капейчыну берагла. Нікому зла не зрабіла, нікога не абразіла. І за што такое пакаранне? Сярод белага дня, у вёсцы, сярод людзей. Калі якая бяда страсецца, то ні капейкі ў хаце».

Сядзела Ганна Міхайлаўна і думала. Усё перад вачыма прамільгнула. Але ж што рабіць, куды падацца са сваім горам? Хто яе зразумее?

Усё ж у міліцыю патэлефанавала, расказала пра сваю бяду, хаця ў голасе яе адчувалася, што мала верыць у поспех, бо прыкметных слядоў злодзей не пакінуў. Як бы там ні было, а паведамленне мы атрымалі і паабяцалі дапамагчы жанчыне.

Трэба сказаць, што пошукі невядомага злодзея доўга не працягваліся. Сёння мы ўжо ведаем яго прозвішча. Гэта Сяргей Е., жыхар вёскі Дабромысль. Нідзе не працуе. З жонкай развёўся.

А пачалося ўсё з адной сустрэчы. Неяк Ганна Міхайлаўна, ідучы па вуліцы, напаткала свайго аднавяскоўца Сяргея Е. і ў размове між іншым спытала ў яго, дзе можна валюту набыць. Тады ні аб чым яны не дамовіліся. Але Сяргей змікіціў, што бабка, напэўна, мае добрыя грошыкі. З таго часу і пачалося «паляванне». Трэба было выбраць час, калі дома нікога не будзе. Такі дзень настаў – 11 лістапада.

«Разбагацеўшы», злодзей частаваў сваіх сабутыльнікаў, а таму-сяму і ў доўг даваў. Частку грошай схаваў дома. Маці знайшла іх і падзяліла – сабе і дачцэ. Відаць, ведала маці, на што здольны яе сынок, калі нават не пытала, адкуль такія грошы, не зацікавілася, не забіла трывогу.

Калі ж сына вылічылі, то маці забегала. Ужо праз некалькі дзён тыя ўкрадзеныя грошы (усе 16 мільёнаў беларускіх рублёў) прывезла сама ў міліцыю.

Знешне ж быццам справа закончана. Злодзей адшуканы, грошы вернуты не вельмі пільнай і асцярожнай пенсіянерцы. Але само зло, ці дакладней кажучы, зладзюга яшчэ не пакараны. Па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа. Следства яшчэ працягваецца. І хто ведае, мо ўсплывуць яшчэ новыя факты па заведзенай справе. Пра гэта мы абавязкова даведаемся. Чакаць засталося нядоўга.

***А. ГЛУШЭНЯ,***
***начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.***

СТОП-КАДР



*Фота А. ГАНЧУКА.*

*Сумёты стосамі ляжаць.*
*З сявенькі сее снежань,*
*Заслаў абрусам сенажаць,*
*Спыняе плынь і студзіць.*
*Мароз спускаецца з гары*
*На сіняй калясніцы.*
*На вуснах ён маіх гарыць,*
*Гарыць — не нагарыцца...*

*Пятро ВАЛІНСКІ,*
*жыхар в. Стайкі Івацэвіцкага раёна.*

ЗДАРЭННІ

# Забарыкадаваліся

Настала зіма, ляжыць бялюткі снег. Дзятва не нацешыцца: можна пагуляць у сняжкі, зляпіць снежную бабу. Самыя нецярплівыя ўжо дасталі са склепаў лыжы і канькі.

У адным з двароў жылога дома па вуліцы Леніна ў Івацэвічах хлопчыкі вечарам гурбой ляпілі снегавікоў. Нехта з іх прапанаваў:

— Давай забарыкадуем дзверы пад'езда.

Дурная справа – не хітрая. Хлопчыкі адразу ж пераключыліся на новы занятак: пачалі з хіхіканнем зносіць снег да дзвярэй. Потым яго ўтрамбавалі. Атрымалася, што ні з пад'езда, ні ў пад'езд не трапіць.

На добры лад трэба было б снег пасля адкінуць. Але хлопчыкі пачалі спрачацца, каму яго разграбаць, перасварыліся і разбегліся па кватэрах, пакінуўшы забарыкадаванымі дзверы пад'езда.

Нехта ішоў з дому – не змог выйсці. Нехта спяшаўся да знаёмых – не цэліў туды. У пастцы аказаўся цэлы пад'езд. Дапамога прыйшла ад запозненых жыхароў, што вярталіся з працы. Яны спусціліся ў свае падвалы, дасталі шуфлі і ачысцілі дзверы ад завалу.

Забава дзіцячая і паскудства дробнае... Але ж нешта ў ёй ёсць такое, што нагадвае больш сур'ёзную сітуацыю. Дзеці снегам дзверы дома забарыкадоўваюць, а мы, дарослыя, дзверы Беларусі ад усяго свету сваёй палітыкай...

*Л. САШЫН.*



"Газета для вас"

**КУПОН**

для бясплатнай прыватнай аб'явы

ТЭКСТ

______________________________
______________________________
______________________________
______________________________

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):



ГЭТА ЦІКАВА

# Электронны звярок Тамагачы выцясняе прыгажуню Барбі

Гэта цацка заваявала ўвесь свет. Хутка ўжо не застанецца краіны, дзе ў спісе жаданых падарункаў не будзе Тамагачы. Японскія, амерыканскія і еўрапейскія дзеці – усе хочуць мець гэты электронны цуд. Не абмінуў бум і Швецыю, дзе цяпер жаданая цацка ёсць амаль у кожнага другога дзіцяці.

Што гэта за цуд – Тамагачы? Размова ідзе аб электроннай каробачцы памерам з дзіцячую далоньку, дзе на экране з'яўляецца істота, якую трэба карміць, паіць, гуляць з ёй і вучыць. Калі ж Тамагачы, крый Божа, захварэе, яго трэба лячыць. На жаль, забаўны электронны звярок, як і чалавек, можа памерці. Зрэшты, узамен яму народзіцца новы, і ўсё пачнецца спачатку.

Тамагачы патрабуе такога ж догляду, як і малое дзіця. Ён расце вельмі хутка, і калі яго добра, педантычна даглядаць, то ён вырасце, пойдзе ў школу і гэтак далей. Усё адбываецца на маленькім электронным дысплеі і кіруецца пры дапамозе 3—4 кнопак.

*(БелТА).*



КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

# Малочная кухня. Што мы ведаем пра яе?

Акадэмік І. П. Паўлаў пісаў, што малако – гэта цудоўная ежа, згатаваная самой прыродай. Сапраўды, акрамя малака, няма іншага такога паўнацэннага прадукта, які чалавек атрымаў бы ў гатовым выглядзе для непасрэднага ўжывання. Малако карыснае і неабходнае як дзецям, так і дарослым. Думка, што малако – гэта дзіцячае харчаванне і ў больш познім узросце яно непатрэбнае, памылковая. Даросламу чалавеку не менш карысна, чым дзецям, ужываць штодзённа адну-дзве шклянкі малака, кефіра ці сыраквашы.

Згодна з даследаваннямі акадэміка І. П. Паўлава, малако лічыцца лёгкай стравай і прымяняецца амаль пры ўсіх страўнікава-кішэчных захворваннях. Мікраэлементы, якія ўтрымліваюцца ў малацэ (медзь, ёд, марганец, фтор і г. д.) неабходны для нармальнага абмену рэчываў, утварэння гармонаў, ферментаў і вітамінаў.

Аб усім гэтым вы можаце прачытаць у кнізе «Малочная кухня» (складальнік С. С. Гваздзевіч). Гэтая кніга знаёміць з малочнай кухняй у сучасным яе разуменні. Выдаўцы ў рамках рацыянальнага харчавання прапагандуюць больш шырокае ўжыванне малака і малочных прадуктаў. Таму, акрамя рэцэптаў тыповых малочных страў, у кнігу ўвайшлі рэцэпты страў з мяса, птушкі, рыбы, салодкіх мучных і гароднінных страў, пры гатаванні якіх малако і малочныя прадукты з'яўляюцца важнай састаўной часткай.

*І. ЛАЎРОЎСКІ.*


**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.**

**Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.**

**Падпісана да друку 8 снежня ў 14.00.**

**Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"**

**Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.**

**РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.**

**НАШ АДРАС: 225250, г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя "Газеты для вас".**

**Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.**

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1100.*
*Заказ 2956.*